# З ПАДАРОЖЖА ПА ЮГАСЛАВІІ

**(Ад нашага карэспандэнта)**

Жара стаяла немагчымая. Ад пякучых праменняў сонца, я сумесна з маім таварышам падарожжа па Югаславіі Бранкам Паўновічам, схаваўся на зацененым тарасе, аднаго з кафэ прыгожага Дуброўніка. Бранко Паўновіч з'яўляецца выпускніком аддзялення рускай мовы і літаратуры белградскага ўніверсітэта, пагэтаму і нашая гутарка не сустракае якіх небудзь перашкод. У сувязі з тым, што Паўновіч паходзіць з вёскі, праблемы сельскай гаспадаркі стаяць на другім месцы ў каталогу спраў, якія яго цікавяць. Ён толькі што прачытаў у газеце Борба палеміку з нейкім ліванскім журналістам, які праўдападобна пісаў, што Югаславія перажывацъ будзе ў гэтым годзе крызіс недахопу пшаніцы. Бранко хвалюецца. Ён ведае з прэсы і ўласнай вёскі, што гэты год будзе асабліва ураджайным, а ўраджай пшаніцы будзе мабыць рэкордным.

Праблема развіцця сельскай гаспадаркі абмяркоўваецца ў Югаславіі не менш шырока чымсьці ў нас. Прычыны агульнай зацікаўленасці сельскай гаспадаркай заключаюцца не толькі ў аптымістычных меркаваннях адносна бягучага года, але і дзяржаўных планах, якія накіраваны на ўздым сельскай гаспадаркі. Гэта дазволіць вывесці яе з застоя, у якім аказалася яна ад часу заканчэння вайны.

У акрэсленні застой няма ніякага перабольшання. Параўнанне сярэдняга ўраджаю так важных для Югаславіі культур у даваенных і пасляваенных гадах, сцвярджае гэтае акрэсленне.

| | 1930—9 | 1947—56 | 1930—39 | 1947—56 |
|---|---|---|---|---|
| | Валавы збор у тыс. тон. | | ураджай з га. | |
| Пшаніца, жыта | 2,646 | 2,280 | 11,1 | 11,0 |
| кукуруза | 4,284 | 3,370 | 16,4 | 9,7 |
| цукровыя буракі | 616 | 1,240 | 176,0 | 151,0 |
| хмель | 2 | 1,5 | 6,7 | 9,0 |
| бульба | 1,648 | 1,710 | 60,0 | 72,0 |

За выключэннем хмелю і бульбы, паменшылася не толькі валавая раслінная прадукцыя, але таксама выдайнасць з гектара. За мінулыя два гады наглядаецца некаторы ўзрост сельскагаспадарчай прадукцыі. Аднак Югаславія, усё яшчэ не мае магчымасці поўнасцю заспакоіць збожжам патрэбы ўнутранага рынку. Між іншым, Югаславія прымушана і ў далейшым імпартаваць пшаніцу, і то з тых краін, якім перад вайной прадавала сама (нпр. Італія).

Па сутнасці толькі ў вытворчасці табаку, садаўніцтве і вырошчванні вінаграду, дасягненні Югаславіі вартыя ўвагі. З 16,5 тысяч тон у 1939 г. вытворчасць дасканалага македонскага і чорнагорскага табаку ўзрасла ў 1957 годзе да 31 тысяч тон. Тымчасам пагалоўе жывёлы ўсё яшчэ знаходзіцца на ўзроўні, які не адрозніваецца ад даваеннага.

| Год | коні | каровы | авечкі | пагалоўе свіней |
|---|---|---|---|---|
| 1931 | 1.333 | 4.883 | 12.291 | 5042 |
| 1956 | 1 311 | 5.206 | 11.360 | 4.655 |



На пасбішчы авечак у гарах Македоніі.

У жывёлагадоўлі Югаславія ўсё яшчэ не можа выраўнаць нанесеных вайной затрат, а асабліва драпежніцкай гаспадаркай, якую вялі нямецкія акупанты.

Аднак павольнае, увогуле, развіццё сельскай гаспадаркі Югаславіі, абумоўлена радам тыповых прычын, характэрных для краін, якія павышанымі тэмпамі разбудоўваюць прамысловасць. У сувязі з разбудовай фабрык і заводаў уклады ў сельскую гаспадарку былі ў мінулыя гады значна меншыя, чымсьці ў прамысловасць, транспарт і будаўніцтва. Па гэтай прычыне ўзровень забеспячэння вёскі ў машыны, трактары і штучныя ўгнаенні, надта далёкі ад узроўня развітых краін — значна меншы чымсці ў нас.

Югаславія, падобна другім краінам, якія разбудоўваюць прамысловасць, перажывала перыяд, калі сяляне кідалі зямлю і ўцякалі ў горад да новай прамысловасці. Празмерна ўзрастала колькасць залежных земляў. Калі перад вайной аблогі займалі плошчу 413 гектараў, то ў сучасны момант, складаюць 660 тысяч гектараў. Урэшце на запазненне сельскагаспадарчага развіцця немалы ўплыў аказаў кансерватызм асноўных сялянскіх мас. Так напрыклад, не гледзячы на значны ўзрост вытворчасці штучных угнаенняў, у 1957 годзе сяляне рассявалі на адзін гектар у сярэднім па 10 кілаграмаў гэтых угнаенняў (у Польшчы каля 40). Гэты кансерватызм у спалучэнні з нястачай сучасных сельскагаспадарчых машын, практычна не ствараў у мінулых гадах магчымасці развіцця калектыўнай гаспадаркі. Такой прынамсі з'яўляецца характарыстыка даная самымі югаславянамі для гэтага перыяду. Таму ў сучасны момант у Белградзе апрацавана рад праграмных тэзісаў на перыяд 5-ці бліжэйших год. Рэалізацыя гэтай праграмы мае прывесці ў 1963 годзе да поўнага забеспячэння запатрабаванняў унутранага рынку ў прадукты харчавання. У аснове гэтых залажэнняў ляжыць механізацыя сельскай гаспадаркі. У сувязі з гэтым Югаславія купіла ў Англіі ліцэнзію на вытворчасць трактараў. Разбудавана таксама ўласныя прадпрыемствы вытворчасці сельскагаспадарчых машын. Значна большая чымсці да гэтай пары вытворчасць трактараў, гэты факт аднак мае асноўнае значэнне. У сучасны момант адзін трактар прыпадае аж на 562 гектары апрацоўваных зямель. Рэалізацыя гэтага плана ва ўмовах Югаславіі, у некаторай ступені будзе абумоўлена надвор'ем. Працяглыя засухі могуць пакрыжаваць найбольш рацыянальныя прадугледжанні.



Сучасны тыпавы элеватар.

Здаралася гэта не адзін раз у 40-ых гадах. Аднак два апошнія гады былі для югаслаўскай сельскай гаспадаркі наогул карыснымі. Прынеслі яны, напрыклад, значнае развіццё садоўніцтва і вінаградных палеткаў. У галіне вытворчасці сліў Югаславія займае другое месца ў свеце. Калі разыходзіцца аб вінаградныя ўправы, то гэтая краіна экспартуе ў сучасны момант 10 тысяч тон вінаграду і 300 тысяч гекталітраў віна ў год. Хіба таму ў Югаславіі, маладое белае віно каштуе менш ад піва.

Заўвага аб смачным віне прыпамінае мне, што мы сядзім у зацененым кафэ Дуброўніка і што замест аб сельскай гаспадарцы, павінны мы гаварыць аб прыгажосці гэтага незвычайнага горада. Аднак Дуброўнік, гэта ўжо зусім іншая тэма і я вярнусь да яе другім разам.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

* Przewodnik gospodarczy — Belgrad 1958 і M Rocznik Statystyczny 1959.

Б. НІКІЦЮК

# У І М Я

Гітлераўцы мардавалі спакойнае насельніцтва, без агародак і літасці. Каб забіць чалавека, ім не патрэбны былі глыбейшыя прычыны. Мардавалі камуністаў і іх прыхільнікаў. Расстрэльвалі нават тады, як сын ці дачка не хацелі ехаць на работы ў Германію. Такім чынам загінулі Аляксей Зялінскі і Яўгень Рэент з Старога Ляўкова.

Немцы забівалі нават за тое, калі хто зарэзаў сабе парсюка без іх дазволу (а дазвалялі вельмі рэдка). Па гэткай прычыне загінулі Міхась Болбат і Павел Гарбарук са Старога Ляўкова.

Дзесяткі асоб загінулі ў лагерах смерці. Вось некаторыя з іх: Сцяпан Палійчук, Пётр Гарашкевіч з Дашоў; Янка Сахарчук і Валтрамей Грыгарук з Пограбаў; Трахім Якубовіч, Марк Намецкі і Піліп Клімюк са Старога Корніна; Янка Астапчук з Дабрывады, Ян Шыманскі і Герасім Казак са Стажыны.

Дамоў вярнуліся адзінкі: Пелагея Панецкая, Марыя Яканюк, Андрэеўская з Гайнаўкі, Аляксей Кучка з Махнатага.

Гітлераўцы былі перакананы, што пры дапамозе зверскіх расправаў аглушаць народ, зробяць з яго паслухмянае, ціхае стада. Такім чынам імкнуліся паказаць людзям, што кожны, хто супрацоўнічае з партызанамі, загіне такой смерцю. Але людзі ўсё больш разумелі, чым з'яўляецца гітлераўскі «новы лад». Гартавалася ўпартасць і баявы дух у палякаў і беларусаў. Яны плячо ў плячо арганізаваліся ў рады, каб разам змагацца з ворагам, знішчаць яго «новы лад», які неабмежавана разгортваў свае бандыцкія лапы.

Фашысты мардавалі не толькі дарослых, яны не праміналі нават старых і маленькіх дзяцей. Яны лічылі на тое, што зверскімі расправамі прымусяць людзей да паслухмянасці, а партызаны згінуць без сувязі, матэрыяльнай дапамогі і папаўнення радоў.



Вятроў — партызан Белавежскай пушчы.

Аднак моцна прамахнуліся. Не ведалі зрэшты псіхалогіі беларусаў і палякаў. Насельніцтва рэалізавала заклік «біць гітлераўскіх бандытаў - людаедаў».

У 1942 г. партызаны пакляліся на магілах памардаваных у Белавежы, што будуць бязлітасна, да апошніх сіл біць фашыстаў, адпомсцяць ворагу за спаленыя вёскі, за смерць тысяч людзей, за гвалты і грабяжы. Людзі ішлі мсціць ворагу несучы на вуснах гарачыя словы «кроў за кроў, смерць за смерць». Паднялася збройная барацьба з акупантам.

Утвараюцца атрады і партызанскія групы. Ужо ў 1942 годзе ў пушчы працавалі партызанскія групы Сцяпана Федаровіча, Васіля Пятровіча, Аляксеява, Кастуся Сібірака, Петракова і Міколы Улезла, Міколы Боўтрыка, Косціна і іншыя.

Аб'ядноўваў гэтыя групы і камандаваў імі Іван Іванавіч Крылоў — член Камуністычнай партыі Беларусі.

З'яўляюцца і першыя рэгулярныя партызанскія атрады. Вось некаторыя з іх: атрад імя Тэльмана, Макарава, Кутузава і Суворава. Побач з развіццём партызанскага руху арганізуюцца антыфашысцкія камітэты.

Між інш. камуністы Уладыслаў Нікса з Аляксандрам Назаруком, Яфімам Ракоўскім, Уладзімірам Пракапюком, Якімам, Янкам і Міколай Парфенюкамі арганізуюць моцны антыфашысцкі камітэт у вёсцы Градочна каля Нарвы, які наладзіў сувязь з савецкімі палоннымі.

Неўзабаве яны ўтвараюць партызанскую групу, якая пачаткова налічвае 15 асоб са старшым лейтнантам Шурай Красевым, лейтнантамі Міколай Пшанічным, Шурай Жураўлёвым і Вятровым на чале. Сувязныя — Нікса з Градочна, Нікановіч і Цімашук з Макаўкі дастаўлялі партызанам лякарствы і ежу.

У маі 1942 года партызанская група пад кіраўніцтвам Косціна трапіла на нямецкую засаду ў 35 аддзяленні ў Ляцкай Пушчы.

Немцы акружылі партызанаў. Партызанам заставаўся адзін выхад — прарваць акружэнне. Пачалася барацьба.

Партызаны наступалі ў напрамку дарогі. Яны адкрылі моцны агонь, якім знішчылі 8 немцаў і выйшлі з акружэння. У гэтай сутычцы быў забіты адзін партызан, а Сяргей Харкевіч — лёгка параненым.

Партызаны ідуць далей. Праз не-

